**Внимание! Программа телевидения на каналах: БТ, ОРТ, Россия, Культура, НТВ, ТВ-6, ТВ-Цэнтр, АСТ**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 6 (87). 4 — 10 лютага 1999 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. Кошт свабодны


## ПАДРАСТАЙЦЕ, ДЗЕЦІ



*Шасцігадовы Максім Грышчанка жыве на Брэсцкай вуліцы ў шматдзетнай сям'і без маці.*

( Матэрыял чытайце на 2 стр.)

АКТУАЛЬНА

## ДЫК КОЛЬКІ ГАДОЎ СЛОНІМУ?

Плануецца, што ў 2002 годзе адбудзецца святкаванне 750-х угодкаў з часу заснавання Слоніма. Пра гэта было паведамлена ў слонімскай дзяржаўнай газеце ў снежні 1998г.

Аднак справа ў тым, што існуюць зусім розныя меркаванні наконт даты заснавання Слоніма. Прыхільнікі ўжо згаданага юбілею лічаць першым упамінаннем нашага горада 1252 год (Іпацьеўскі летапіс). Аднак польскімі і беларускімі гісторыкамі называецца і 1040 год, калі "на палях слонімскіх" адбылася бітва войскаў Яраслава Мудрага з ліцвінскімі дружынамі. Існаванне Слоніма ў 11 стагоддзі падцвярджаюць і археалагічныя даследаванні. Такім чынам мы маем дзве даты. У падобных сітуацыях, як правіла, перавага аддаецца найбольш старажытнай з іх. Кожны сапраўдны патрыёт свайго горада імкнецца павялічыць яго славу.

— Ёсць такі тэрмін "верагодная дата", — гаворыць вядомы беларускі археолаг Яраслаў Звяруга, — гэта, калі дата сумнiўная, як 1040 год па Слоніму, бо ў хроніцы называецца не горад, а "палі слонімскія". Такая ж праблема была з Навагрудкам. Аднак там за год заснавання горада была прынята як раз "верагодная дата", старэйшая за афіцыйную. Тое самае было і з Кіевам...

Наш зямляк, гісторык Васіль Мялешка таксама падзяліўся сваёй думкай на гэтую тэму:

— Вядома, афіцыйная дата — гэта згадка з Іпацьеўскага летапісу. Але ўсе археолагі сцвярджаюць, што Слонім існаваў ужо ў XI стагоддзі. Таму гэтая дата (1252 год) не адпавядае гістарычнай праўдзе...

Безумоўна, з датай заснавання нашага горада павінны вызначыцца найперш гісторыкі. Па некаторых звестках, сёлета ў Слоніме павінна прайсці навуковая гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя, якая магла б абмеркаваць гэтае пытанне.

Цікава, што існуе яшчэ і трэцяя дата — 1103 год. Менавіта тады Эрдзівіл, сын Манвіла, "заняў землі рускія па Слонім". Такім чынам, можна лічыць, што на 2003 год прыпадаюць 900-ыя ўгодкі ўпамінання Слоніма...

**Сяргей ЁРШ**

РАЗВАГА НАД ФАКТАМ

## СПЕЦЫЯЛІСТ ЗАСНУЎ НА РАБОЦЕ

Аднаго майго знаёмага ў свой час захапіла сельская рамантыка, і ён паступіў у Ваўкавыскі сельскагаспадарчы тэхнікум, каб вучыцца на ветфельчара. Закончыў яго на адны пяцёркі. Без экзаменаў паступіў ў Гродзенскі сельгасінстытут на завочнае аддзяленне. Ажаніўся, неўзабаве нарадзілася дзіця.

Быў памочнікам загадчыка фермы, загадчыкам, заатэхнікам-селекцыянерам. Тады і зразумеў хлопец, што сеў не ў тыя сані, але ўжо было позна. Трэба было заканчваць вучобу і карміць сям'ю.

Узнаўленне калгаснага статку — справа не аднаго чалавека. Тут павінны быць зацікаўлены і загадчыкі ферма, і даяркі, і, вядома ж , кіраўніцтва гаспадаркі. А на справе аказалася, што ўсім гэта "да лямпачкі". Паламаліся прыстасаванні, пры дапамозе якіх праводзіцца кантрольныя дойкі. Пайшоў да старшыні калгаса: дапамажыце набыць новыя.

— Ты што, з глузду з'ехаў? У мяне сяўба на носе, трактары трэба рамантаваць, гаручае раздабываць, а ты з нейкім глупствам лезеш.

Ну, неяк адрамантавалі тыя прыстасаванні. Давай праводзіць кантрольныя дойкі. Да самай далёкай фермы 15 кіламетраў у адзін бок. Пешшу туды і назад. Загадчык фермы ўспрымае гэту працэдуру без энтузіязму, а даяркі, дык і, наогул, на ражне яе бачылі. Іншая раніцой прыйдзе на работу з глыбокага пахмелля. Ёй трэба неяк вядро мукі ўкрасці, каб занесці суседу, які сто грамаў налье для папраўкі здароўя, бо галава гудзе, як пусты чыгун. А тут нейкія кантрольныя дойкі.

З сельгасупраўлення прыязджаюць, з раённай племстанцыі са сваімі патрабаваннямі. Унікаць у сутнасць справы ніхто не хоча: давай і ўсё! Ужо ў чым, а ў правяральшчыках недахопу ў нас ніколі не было. Вось зарплату плаціць, дык чамусьці забываліся. Па чатыры месяцы не давалі ні рубля. А тут і жонка ў дэкрэтным водпуску, і на сесіі ездзіць трэба. Жыві за што хочаш: еш, апранайся, абувайся, купляй дзіцяці вітаміны.

Хто жыве ў вёсцы, той ведае; якая гэта пакута: насенаваць летам на дзве каровы. Аднаму, калі табе ніхто не паможа і дзялку скасіць. Сенаваў, куды ж дзенешся. Бо з кароў гэтых, уласна кажучы, і жыла маладая сям'я. Прадавалі малако вясковым бабулькам і куплялі хлеб, крупы. А яшчэ малады гаспадар уставаў раніцай у чатыры гадзіны, даіў кароў, выганяў іх на пашу, а потым садзіўся на веласіпед і за дзевяць кіламетраў вёз прадаваць малако ў бліжэйшы гарадскі пасёлак, дзе загадзя дамовіўся з людзьмі. Пакуль адмахае дзевяць кіламетраў туды ды дзевяць назад. А потым цэлы дзень на фермах. І ўсё пешшу. Рэдка калі выпадзе спадарожны транспарт.

Аднойчы прыйшоў на ферму і пісаў у чырвоным кутку нейкія справаздачы, якіх патрабуюць цэлыя кіпы. І сам не заўважыў, як галава апусцілася на стол. Заснуў... Нічога дзіўнага: з дня ў дзень такая нагрузка. А колькі той летняй ночы. І трэба ж такому здарыцца: прыехаў раённы правяральшчык. Ён добра выспаўся, паснедаў і паехаў па фермах даваць прачуханкі ўсім, хто пад руку трапіць. А тут нарваўся на такое надзвычайнае здарэнне: спецыяліст заснуў на рабоце. Добры чалавек разбудзіў бы гэтага зялёнага спецыяліста, які яму па ўзросту ў сыны гадзіцца, ды папюдску спытаў бы, чаму заснуў. Не п'яны ж. Дзе там! Такое кадзіла раздзьмуў! Цэлы год на ўсіх малых і вялікіх нарадах ды семінарах па жывёлагадоўлі было пра што пагаварыць, было з каго здзіраць стружку.

Столькі прыніжэння выцерпеў хлопец, столькі крыўды!

Мала дзе да пачынаючых спецыялістаў адносяцца з добразычлівасцю і разуменнем. Падказаць бы, дапамагчы, падтрымаць. Няма гэтага. Крык і грубасць. Строгасць, канешне, павінна быць, але не грубасць. А ў нас, наогул, чамусьці ўсе прывыклі крычаць. Як справы не ладзяцца, дык у крык. Нібы гэтым штосьці можна паправіць.

Каб хоць зарплата была людская, а то здзек адзін. Па паўгода чакае яе, а потым за тыдзень распусціць. І купіць толькі самае неабходнае для сям'і.

Адна радасць была: маленькі сынок і разумная, спагадлівая жонка.

Прадаў малады гаспадар сваіх кароў, парэзаў свіней і назаўсёды падаўся з вёскі. Успамінае тое калгаснае жыццё, як кашмарны сон, хоць і цяпер жыве не ў раскошы. Але ніхто не крычыць , не патрабуе немагчымага, не прыніжае чалавечую годнасць.

У сельскай гаспадарцы патрэбны рэформы. Гэтага не разумее хіба толькі той, хто не хоча разумець. І тады некаторыя з тых, хто некалі пакідалі вёску, вернуцца ў яе. Але толькі ў тым выпадку, калі можна будзе там нешта зарабіць, калі не будуць прыніжаць чалавечую годнасць, калі людзі адчуюць сябе гаспадарамі не на словах, а на справе.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ, Дзятлава.**

ЗДАРЭННІ

### Забілі вартаўніка

**Апоўначы 27 студзеня ў раённую бальніцу са шматлікімі траўмамі галавы быў дастаўлены 47-гадовы вартаўнік Хмяльніцкай жывёлагадоўчай фермы калгаса "Міжэвічы" Іван Весялуха.**

Раніцай, не прыходзячы ў прытомнасць, мужчына памёр. Па папярэдніх звестках, асобы, якія ўчынілі злачынства, устаноўлены. Зараз вядзецца іх пошук.

### Затрыманы зладзейскі квартэт

**На мінулым тыдні супрацоўнікі слонімскага крымінальнага вышуку затрымалі чатырох слонімцаў, якія, пачынаючы з верасня мінулага года, здзейснілі ў розных раёнах горада шэраг кватэрных крадзяжоў.**

Па папярэдніх звестках злодзеі ўжо прызналіся ў васьмі злачынствах.

### Гарэла "Мазда"

**У мінулую суботу на стаянцы ў мікрараёне "Энка" ад замыкання электраправодкі раптоўна ўспыхнуў аўтамабіль "Мазда-626".**

Пажарныя прыбылі своечасова, але ад агню ўшчэнт разляцеліся ўсе шыбы іншамаркі і згарэла абшыўка салона.

### У хаце комін абваліўся

**Днямі ў доме на Падлеснай вуліцы ўзнік пажар. Муж і жонка Ігнацікі, запаліўшы печку, пайшлі да сваякоў у госці.**

Праз некаторы час абваліўся сапсаваны комін. Суседзі выклікалі пажарных, якім удалося патушыць агонь.

### Смерць на павароце

**На дарозе Слонім-Зэльва, непадалёку ад базы ўпраўлення магістральных газаправодаў, здарылася жудасная аварыя, падчас якой загінулі два чалавекі.**

25-гадовы слонімец Сяргей Баскакаў на аўтамабілі "Опель" ехаў з боку вёскі Чамяры ў Слонім. На небяспечным павароце ён пачаў рабіць абгон і не справіўся з кіраваннем. Аўтамабіль з'ехаў у кювет і перакуліўся. Вадзіцель загінуў на месцы здарэння, а пасажыр машыны 28-гадовая Людміла Баранава памерла ў бальніцы.

### Аварыя ў кар'еры

**Падчас аўтамабільнай аварыі ў Зэльвенскім раёне цяжкія калецтвы атрымаў вадзіцель Слонімскага ГАП-11 саракагадовы Пётр Сушко.**

Аўтамабіль "Урал", гружаны гравіем, які належыць Зэльвенскай сельгасхіміі, пры выездзе з кар'ера "Кашалі" занесла на слізкай дарозе, і ён сутыкнуўся са слонімскім МАЗам.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ПАДРАСТАЙЦЕ, ДЗЕЦІ

На сённяшні дзень у Слоніме жыве 40 мнагадзетных сем'яў. Яны ўтвараюць у горадзе сваё грамадскае таварыства, старшынёй якога з'яўляецца Леаніда Іосіфаўна Кукліс, маці дзевяці дзяцей. Яна паведаміла карэспандэнту "ГС", што членам таварыства можа стаць сям'я, у якой ёсць пяць і болей дзяцей. У большасці, такія сем'і поўныя, але ёсць і з адным кармільцам. Так, адна выхоўвае пяцярых дзяцей Вера Анатольеўна Грабун. Пяцёра дзяцей засталося пад апекай Рыгора Мікалаевіча Грышчанкі. Дарэчы, у горадзе ён адзіны мнагадзетны бацька-удавец...



*Грышчанка-старэйшы рыхтуе абед*

На пытанне, якія льготы прадугледжаны дзяржавай для мнагадзетных сем'яў, Леаніда Кукліс расказала наступнае:

— Мнагадзетная маці мае права ў 50 гадоў пайсці на пенсію. Больш ад дзяржавы — ніякіх ільгот. Будаўніцтва жылля, чарга на кватэру, грашовыя ссуды і выплаты на дзяцей — усё ў агульным парадку. Да праблем мнагадзетных сем'яў з разуменнем ставяцца мясцовыя ўлады. Праўда, і ад іх дапамога невялікая. Так, згодна рашэння ўладаў мы плацім 50% за электраэнергію.

Для немаўлят з мнагадзетных сем'яў бясплатная малочная кухня. Часам з бюджэта горада выдзяляецца дапамога. Напрыклад, 14 кастрычніка (Дзень маці) усім мнагадзетным сем'ям далі грашовую дапамогу ў памеры аднаго мільёна рублёў, наладзілі святочны банкет для бацькоў у рэстаране "Верас"... Але ўтрымліваць вялікую сям'ю на нашы цяперашнія заробкі вельмі цяжка. Таму мы звяртаемся па дапамогу ў дабрачынныя фонды і арганізацыі. Летась з Гродна з дзіцячага фонду нам дапамаглі адзеннем, паступае дапамога па лініі Чырвонага Крыжа, касцёла.

Карэспандэнт "ГС" пабываў у сям'і Рыгора Грышчанкі, які пасля смерці жонкі адзін гадуе пяцёра дзяцей.

У Слонім яго сям'я прыехала восенню 1997 года з Чарнобыльскай зоны. Там яны пакінулі свой прыватны дом, а тут атрымалі чатырохпакаёвую кватэру. Там быў прысядзібны ўчастак, гаспадарка. Нічога гэтага, вядома, тут няма... Дапамагае бацьку старэйшая дачка Людміла, яна па спецыяльнасці повар, ды і малодшыя дапамагаюць адзін другому і бацьку. Яны ў яго больш самастойныя, чым іх равеснікі ў іншых сем'ях. Сын Ігар вучыцца на 2 курсе СПТВ-189, дачка Лена паступіла ў Смілавіцкае СПТВ, жыве ў сваёй цёткі (таксама перасяленкі). Сяргей ужо сямікласнік СШ №8, а вось малодшы, Максім, яшчэ ходзіць у дзіцячы сад, на наступны год пойдзе ў школу...

— Матэрыяльна цяжка. Трэба апрануць, абуць, накарміць. Жывем на мой заробак ды на пенсію, якую дзеці атрымліваюць па смерці маці, — сказаў у канцы гутаркі Рыгор Мікалаевіч.

**Матэрыял да друку падрыхтавалі Мікола КАНАНОВІЧ і Мікалай СУПРУН**

## ПРОШУ СЛОВА

# Что едим?

*В своем письме "А как хочется попробовать настоящую котлету" ("ГС" N4 21-27 января 1999г.) П.И.Перникова поднимает довольно острый для многих людей вопрос.*

Интересно, кто был в комиссии, когда проводили презентацию тех картофельно-мясного фарша и мясокартофельных пельменей? Как-то моя бывшая приятельница из Америки, гостившая в Слониме, была в недоумении, когда увидела, что я купила один килограмм фарша: "Разве твоя собака может есть не свежую пищу", — говорит она. Теперь наступила моя очередь выпучить глаза. Говорю: "Это же будут котлеты для нас". 25 лет жизни там многое изменили в ее сознании. Моя приятельница очень пожалела, что в нашем государстве не заботятся о чистой, питательной пище. А государство — это мы. И, выходит, что мы сами придумываем для своих ближних такие фарши и котлеты. Уже давно не соответствуют своему названию пельмени, которые, наверное, перепутали с картофельными варениками. Кого мы обманываем? Сами себя. И это с разрешения тех, кто обязан защищать потребителей.

Понятно, что вся эта ниша для массового потребления делается, чтобы было дешевле. Ладно, мы пожилые, поели вкусных сосисок. Но мне жаль детей. Чем же мы их кормим. С одной стороны говорим с высоких трибун про заботу о детях, как о будущем нации, а с другой — сами их травим некачественной пищей.

**Римма Ивановна МИСКО, пенсионерка**

# Лучше не пить

*В "ГС" (N 5 за 1999 г.) была напечатана заметка "Піць трэба ў меру". Но где та мера?..*

Применять идею об умеренности к алкоголю, что приносит только вред и никакой пользы, ошибочно.

Можно ли сказать о человеке, когда он выпил ( в меру, не в меру ли), что он после этого поумнел? Стал лучше, перестал делать ошибки, промахи?

Алкоголь — коварный наркотик, приводящий в конце концов к полной деградации личности и вымиранию народа.

Есть ли тут выход? Есть. От алкоголя необходимо полностью отказаться. Не пить его, как не пьют любую другую отраву.

**Лилия СОСНОВСКАЯ, г. Слоним.**

## НАВІНЫ

# Умяшаўся мясцовы кіраўнік

**У вёсцы Малькавічы была ўтворана ініцыятыўная група па вылучэнню кандыдата ў дэпутаты мясцовага Савета Дзмітрыя Ганчара шляхам збору подпісаў. У яе састаў увайшла загадчыца крамы А.Трахімчык.**

Пасля таго, як адпаведныя дакументы былі пададзены ў выбарчую камісію, у краму завітаў адзін з кіраўнікоў мясцовага калгаса і строга папярэдзіў жанчыну, каб яна пакінула склад ініцыятыўнай групы. Жанчына вымушана была падпарадкавацца.

# Сігналізацыя на доме Саветаў

**У Беларусі стала модным уздымаць бел-чырвона-белыя сцягі над будынкамі дзяржаўных устаноў.**

У Мастах апазіцыя таксама вывешвала гэтыя старажытныя сімвалы, але ў іншых месцах.

Раённае кіраўніцтва, каб пазбегнуць такіх выпадкаў у будучым, устанавіла на люку, што вядзе на дах дома Саветаў, сігналізацыю.

# Ліквідацыя працягваецца

**Колькасць сялянскіх і фермерскіх гаспадарак у Мастоўскім раёне няспынна скарачаецца.**

Рашэннем райвыканкама зліквідавана сялянская гаспадарка Міхаіла Авечкі.

Зараз у раёне налічваецца толькі адзінаццаць юрыдычных асобаў, якія працягваюць гаспадарыць на зямлі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## НАША МІНУЛАЕ

# Хто такі Сталін?

Вытрымкі з выступаў удзельнікаў раённай нарады настаўнікаў:

"Але ёсць і такія настаўнікі, якія не апраўдваюць звання савецкага педагога. Настаўніца Жыровіцкай пачатковай школы грамадзянка Мудрэчэнко дазваляе сабе лепш схадзіць у царкву, чым з'явіцца на пасяджэнне педсавета... Вучні Альбярцінскай школы, якія вывучаюць Канстытуцыю, не ведаюць нават хто такі Сталін".

**"Вольная праца" (Слонім), № 5, 17 студзеня 1946 г.**

# Новы старшыня Дзятлаўскай "вертыкалі"

Ім стаў нядаўна Алег Іванашка, які да гэтага працаваў намеснікам старшыні.

# З калгаса ў выканкам

**Адзін з лепшых у Дзятлаўскім раёне калгасаў "1 Мая" узначаліў Сяргей Луня.**

Ранейшы кіраўнік гаспадаркі Васіль Сцяпура цяпер працуе старшынёй Воранаўскага райвыканкама.

# Дагазаваўся...

**Не пашанцавала аднаму з жыхароў Расіі, якога лёс закінуў у вёску Дварэц Дзятлаўскага раёна.**

Будучы п'яным, ён на сваёй машыне "Газэль" на павароце ўрэзаўся ў апору лініі электраперадач, паламаў агароджу каля адной з сядзіб і моцна пашкодзіў машыну. Страты склалі 300 мільёнаў рублёў.

# Вечарына паэта-земляка

**У раённай бібліятэцы адбылася вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння паэта-земляка Івана Пятровіча Івашэвіча (літаратурны псеўданім Пятро Граніт).**

Ён нарадзіўся ў вёсцы Зачэпічы Дзятлаўскага раёна. У сакавіку 1940 года ў Лідзе сустракаўся з Я.Купалам, П.Глебкам, В.Таўлаем, Н.Тарас. Разам з імі выступаў перад вялікай аўдыторыяй. Пасля вайны Іван Пятровіч доўгі час працаваў загадчыкам пачатковай школы ў роднай вёсцы, выдаў кнігу вершаў для дзяцей "Сцяжынкі". Памёр у 1980 годзе, пахаваны на зачэпіцкіх могілках. На вечарыне яе ўдзельнікі гаварылі аб жыцці і творчасці паэта, чыталі яго вершы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# ВИЧ наступает

**По состоянию на 1 января 1999 года, в Беларуси был официально зарегистрирован 2.341 ВИЧ-инфицированный.**

Это на 554 случая ВИЧ-инфекции больше по сравнению с началом 1998 года. В то же время, по оценкам медиков, истинное количество ВИЧ-инфицированных в стране в 10-12 раз выше. Как считают специалисты, наибольшую опасность представляет беспрецедентный рост наркомании. Наркотики становятся все более популярными в обществе, прежде всего — среди молодежи.

# Долг компенсируется рекламой

**Как заметили внимательные телезрители, белорусское телевидение транслирует по российскому каналу ОРТ, перекрывая его рекламные блоки, свою рекламу.**

По словам заместителя председателя Национальной государственной телерадиокомпании Виктора Дудко, все дело в том, что с 1995 года ОРТ имеет долг перед госбюджетом Беларуси за оплату телесигнала, который составляет 10,2 миллиона долларов. Часть этих средств и предполагается компенсировать за счет трансляции белорусской рекламы в программах ОРТ.

**БелаПАН**

## НАДВОР'Е

**4 февраля** — ночью без осадков, днем временами снег, метель, ветер северо-западный 8-13м/с, температура воздуха ночью -8, -13, днем -2, -7 градусов.

**Неблагоприятные** по геофизическим факторам дни в феврале: 5, 11, 14, 15, 18, 20, 23, 25.

АФІША•АФІША•АФІША•АФІША•АФІША•АФІША

## Кінатэатр "Мір"

**4 лютага** — "Захоп" (ЗША).
Сеансы ў 15, 17, 19 (пад.), 21.00.

ВІДЭАСІСТЭМА "Вялікі экран"

**5 лютага** — "Маленькія салдаты" (баявік, ЗША).
Сеансы ў 15, 17, 19, 21.00.
**6 лютага** для дзяцей — зборнік мультфільмаў.
Сеанс у 15.00.
"Натрэнераваны забівацъ" (баявік, ЗША).
Сеансы ў 17, 19, 21.00.
**7 лютага** для дзяцей — "Тупы і яшчэ тупейшы" (мультфільм). Сеансы 15.00.ф
"Прафесія — сціпацель" (баявік). Сеансы ў 17, 19, 21.00.
**8 лютага** — "Амерыканскія пярэваратні ў Парыжы" (жахі).
Сеансы ў 15, 17, 19, 21.00.

## Дом культуры

**7 лютага** — новая шоу-праграма тэатра моды "Этуаль" — "Тарнада". Пачатак у 16.00.



Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 3 лютага 1999г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз. Заказ № 280
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

НАША ІНТЭРВ'Ю

# ГЕНЕРАЛ АД АПАЗІЦЫІ

31 студзеня ў Слоніме прайшоў семінар "Асноўныя правы і свабоды грамадзян і гарантыі іх рэалізацыі", арганізаваны рэгіянальнай асацыяцыяй "Воля да развіцця" і таварыствам "Аслона" (Ваўкавыск) пры падтрымцы фонда "Еўразія". Удзельнікі семінара, якія прадстаўлялі Слонім, Дзятлава, Зэльву, Свіслач і Ваўкавыск, дзяліліся вопытам праваабарончай дзейнасці, знаёміліся з міжнароднымі механізмамі абароны правоў чалавека. Сярод гасцей гэтага мерапрыемства быў палітык, заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь Мечыслаў Грыб. Ён адказаў на пытанні карэспандэнта "ГС":



**ДАВЕДКА:** ***Мечыслаў Грыб нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Савічы Дзятлаўскага раёна. Генерал-лейтэнант міліцыі. Прайшоў шлях ад інспектара да начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама. З 1990 г. — дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі. У студзені 1994 года быў абраны Старшынёй Вярхоўнага Савета. Пад яго старшынствам парламент прыняў 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.***

***— Мечыслаў Іванавіч, Вы першы раз у Слоніме?***

— Раней бываў праездам, а цяпер выпала нагода пазнаёміцца са Слонімам бліжэй. Дарэчы, мой бацька мясцовы, з Казлоўшчыны. Так што я маю нейкія адносіны да Слоніма...

***— Многія памятаюць Вас, як Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, як чалавека, які паставіў подпіс пад першай Канстытуцыяй незалежнай Беларусі 1994 года. Але мала хто ведае, што Мечыслаў Грыб сёння адзін з дзеячоў апазіцыі. Як так сталася? Гэта быў Ваш свядомы выбар ці збег абставін?..***

— Свядомы выбар. Калі быў выбраны першы прэзідэнт Беларусі, я ўзначальваў Вярхоўны Савет. І незалежна ад маіх да яго сімпатый або антыпатый, я згодзен быў з ім працаваць. Але з першага свайго кроку Лукашэнка пачаў прэтэндаваць на заканадаўчую ўладу. А Вярхоўны Савет не мог пагадзіцца, каб ён сваімі ўказамі выдаваў і адмяняў законы...

З канца 1994 года пачалася адкрытая канфрантацыя паміж Вярхоўным Саветам і прэзідэнтам. Мы змагаліся, як маглі... Некалькі разоў спрабавалі правесці фінансавую рэвізію кіраўніцтва спраў прэзідэнта. І пракуратуру падключалі, і кантрольную палату, і дэпутацкую камісію стварылі, але так і не ўдалося гэта зрабіць.

***— Мечыслаў Іванавіч, Вярхоўны Савет 13-га склікання нядаўна на травень прызначыў выбары прэзідэнта Беларусі. Як Вы адносіцеся да такога рашэння?***

— Нармальна. Я — дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання па Дзятлаўскай выбарчай акрузе. Галасаваў за гэтае рашэнне. У адпаведнасці з Канстытуцыяй 1994 года, прэзідэнт выбіраецца на 5 гадоў. У Лукашэнкі тэрмін канчаецца 20 ліпеня 1999 года. За пяць месяцаў да гэтай даты трэба прыняць рашэнне аб выбарах, што і было зроблена. А тое, што Лукашэнка прадоўжыў сваё паўнамоцтвы на два з паловай гады, гэта было незаконнае рашэнне. Рэферэндум 1996 года прайшоў з вялікімі парушэннямі і яго вынікі, акрамя Расіі, ніхто не прызнаў.

***— А Вы не думаеце ўдзельнічаць у выбарах?***

— На гэты раз не. Я з'яўляюся першым намеснікам старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), і наша партыя не будзе вылучаць кандыдата ў прэзідэнты. Мы вырашылі падтрымаць кандыдатуру Міхаіла Чыгіра.

***— Ці ёсць у апазіцыі праграма выхаду краіны з крызісу?***

— Праграма ёсць. Яна была абнародавана на прайшоўшым у Мінску Кангрэсе дэмакратычных сіл. Наша мэта — рынкавая эканоміка і шматвектарная палітыка (супрацоўніцтва і з Захадам, і з Усходам).

***— Вы займаецеся не толькі палітыкай, але і грамадскай дзейнасцю...***

— Так, часта даводзіцца прымаць удзел у канферэнцыях, семінарах і ў Беларусі, і за мяжой. Выступаю з дакладамі па пытаннях правоў чалавека. Апошнім часам з'яўляюся каардынатарам недзяржаўных грамадскіх аб'яднанняў па падрыхтоўцы наглядальнікаў на выбары ў мясцовыя Саветы.

***— І апошняе пытанне. Мечыслаў Іванавіч, які лёс чакае Канстытуцыю 1994 года?***

— Яна вернецца. Я размаўляў з Міхаілам Чыгіром. У выпадку яго перамогі на прэзідэнцкіх выбарах, ён адновіць яе дзеянне. Як вядома, у 1996 годзе прэм'ер-міністр М. Чыгір не прызнаў вынікаў рэферэндуму і пайшоў у адстаўку...

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**



АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

## Па дарозе прагрэсу — да пачэснага пасаду

Нацыянальная ідэя, дзяржаўная ідэя, дзяржаўная ідэялогія... Куды і як ісці і да чаго імкнуцца, як руляваць?.. Гэтыя тэмы і пытанні хвалююць многіх. Але складваецца ўражанне, што эліта краіны знаходзіцца ў стане гіпнозу ці зацяжнога салодкага сну. І толькі ў апошні час, здаецца, гэтыя пытанні становяцца прадметам больш шырокага абмеркавання. Без правільнага і разумнага адказу на іх не можа — і не зможа — стаць цвёрда на ногі і паспяхова развівацца наша маладая краіна — Рэспубліка Беларусь.

У мінулым і нацыянальныя ідэі, і дзяржаўныя ідэялогіі фарміраваліся перш за ўсё пад погляды і інтарэсы кіруючых асоб і пануючых груповак грамадства (кланаў, партый, класаў). Цяпер часы іншыя. Сучасная дзяржаўная ідэалогія, каб быць прынятай грамадствам, павінна адпавядаць доўгатэрміновым інтарэсам усіх яго сяброў і груп. Каб быць жыццядзейнай яна, на маю думку, павінна:

1. Быць зразумелай для пераважнай часткі насельніцтва.

2. Адпавядаць інтарэсам і памкненням людзей, як цяпер, так і на перспектыву.

3. Паказваць рэальныя механізмы павышэння ўзроўню жыцця.

4. Улічваць геапалітычную, сацыяльна-эканамічную і маральна-культурную сітуацыю ў краіне, менталітэт нацыі.

5. Упісвацца ў агульны працэс гістарычнага развіцця чалавецтва.

6. Грунтавацца на фундаментальных каштоўнасцях нашага часу.

7. Быць усебакова абмеркаванай і даведзенай да ведама ўсяго грамадства.

Такая ідэялогія можа быць распрацавана і сфармулявана пры ўмове ўсебаковага аналізу і ўліку навуковых і практычных звестак па наступных напрамках:

а) гісторыя развіцця цывілізацыі,

б) стан сучаснага свету,

в) псіхалогія грамадства і яго груп,

г) чалавек — разумная істота, вытворца і выняходнік.

Хацелася б заклікаць палітыкаў і навукоўцаў, прадстаўнікоў кіруючых структур, замест марнай траты сіл і часу на ўзаемныя абвінавачванні і абразы, да разумення, адказнасці, да згоды і плённай сумеснай працы на карысць Бацькаўшчыны.

**Георгій ШУНДРЫК,**
**настаўнік, Дзятлава**

ФОТАІМГНЕННЕ



***Куды ідзем?..***
***Фота Мікалая СУПРУНА***

ЗГАДКА

## Юбілей паэта

**Валянціну Таўлаю (1914-1947) у гэтыя дні споўнілася б 85 гадоў з дня нараджэння.**



Нарадзіўся ў Баранавічах, а пасля разам з бацькамі, якія шукалі працу, жыў у розных гарадах Беларусі. У 1924 годзе прыехаў у Рудаўку. Вучыўся ў польскай школе ў Вялікай Кракотцы, а пасля быў вучнем першага курса Слонімскай польскай дзяржаўнай семінарыі. За нежаданне адмовіцца ад беларускай нацыянальнасці быў пазбаўлены стыпендыі і вымушаны пакінуць вучобу.

У канцы дваццатых гадоў Валянцін Таўлай прымаў актыўны ўдзел у камсамольскіх забастоўках, выбіраўся сакратаром Азярніцкага падрайкама камсамола, быў членам КПЗБ. За што шмат цярпеў. І менавіта гэтая рэвалюцыйная і партыйная дзейнасць адмоўна адбілася на яго літаратурнай творчасці. Паэт мог зрабіць у літаратуры значна больш, чым яму ўдалося. Але такія яго творы, як "Таварыш", "Песня пра сухар", "Дзяўчыне", "Маякоўскі пасяброўску радзіў", "Бацьку", "Жаўрук", безумоўна, належаць да нашай паэтычнай класікі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# "СПАДЗЯЮСЯ НА ЛЕПШЫЯ ЧАСЫ..."

**Нядаўна ў Віцебску прайшоў семінар журналістаў пад назвай "Прававыя асновы дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі". Яго арганізавалі і правялі Беларуская асацыяцыя журналістаў і Расійскі фонд абароны галоснасці.**



У семінары прымаў удзел былы член Канстытуцыйнага суда доктар юрыдычных навук, прафесар Міхаіл Пастухоў, які пагадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта "ГС".

***— Міхаіл Іванавіч, чым Вы цяпер займаецеся?***

— Мая пастаянная праца – Недзяржаўны інстытут кіравання прадпрымальніцтва, дзе я з'яўляюся прафесарам права і загадчыкам кафедры. Акрамя таго, узначальваю Цэнтр прававой абароны сродкаў масавай інфармацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў.

***— Ці часта звяртаюцца да Вас па дапамогу журналісты?***

— Вельмі часта. Часам прыходзяць за парадамі, кансультацыямі. Найбольш звяртаюцца па дапамогу, каб вырашыць пытанне па рэгістрацыі друкаваных выданняў. Прыходзіцца часам удзельнічаць у судовых працэсах, у прыватнасці, нядаўна быў прадстаўніком газеты "Наша Ніва" ў судовым працэсе, які мы выйгралі. Маю вялікае жаданне наведаць Слонім і бліжэй пазнаёміцца з рэдкалегіяй "Газеты Слонімскай". Прыкладна паўгода назад падчас знаходжання ў Варшаве хтосьці з маіх калег юрыстаў даў мне пачытаць адзін з нумароў вашай газеты. Яна мне вельмі спадабалася. Як толькі знайду крыху часу, абавязкова наведаю Слонім, бо ён мне блізкі і таму, што мая жонка Валянціна Іванаўна родам з вёскі Рахавічы Слонімскага раёна. Там і зараз жывуць паважаныя мною цешча Соф'я Кузьмінічна і цесць Іван Афанасьевіч Анішчыкі. Акрамя гэтага, пасля заканчэння вучобы на юрыдычным факультэце БДУ, у Слоніме праходзіў вайсковую службу.

***— Якімі Вы бачыце перспектывы развіцця заканадаўства ў адносінах да сродкаў масавай інфармацыі?***

— Сёння дзяржава па-ранейшаму застаецца ўласнікам сродкаў масавай інфармацыі, паліграфічнай базы, сістэмы распаўсюджвання інфармацыі. Лічу, што ў гэтым галоўная прычына існуючых сёння праблем СМІ. У цяперашні час вялікая група юрыстаў Беларусі, у тым ліку і я, працуе над праектам канцэпцыі рэфармавання заканадаўства аб СМІ. У прыватнасці, вызначаны мэты і задачы забяспячэння свабоды СМІ, як неабходнай умовы развіцця дэмакратычнага грамадства. Распрацаваны таксама асновы развіцця выдавецка-паліграфічнай дзейнасці, умовы самакіравання журналісцкіх арганізацый. Дзяржава не павінна навязваць свой дыктат журналістам, як і прадстаўнікам іншых свабодных прафесій. На наш погляд, журналісты павінны самастойна вызначаць, як ім будаваць сваё самакіраванне.

***— Якія найбольш характэрныя парушэнні правоў СМІ з боку дзяржавы вы маглі б адзначыць?***

— Найчасцей здараюцца выпадкі неабгрунтаванага спынення дзейнасці друкаваных выданняў, забарона друкаваць іх у друкарні. Дайшло нават да таго, што ў мінскім паліграфічным выдавецтве "Дом друку" сталі спаганяць плату з незалежных газет і часопісаў за ўезд на тэрыторыю.

**Гутарыў**
**Валянцін ЧУРЫЛА**

УВАГА! КОНКУРС

# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?" ад "Kodak-ЛЮКС"



Працягваем наш конкурс і публікуем лепшыя чытацкія подпісы да здымка, які надрукаваны ў "ГС" №4.

Ніжэй друкуем новы здымак, які на конкурс даслаў наш чытач Сяргей Марчык. На працягу дзесяці дзён чакаем ад вас да яго смешныя подпісы. Не забывайце ўказаць сваё імя, прозвішча, дамашні адрас і тэлефон.

Рэдакцыя чакае ад вас, паважаныя чытачы, і цікавыя фотаздымкі на гэты конкурс. Аўтары самых удалых подпісаў і фотаздымкаў атрымаюць прызы ад слонімскага філіяла фірмы "Кодак-Люкс", які з'яўляецца спонсарам нашага конкурсу. Вынікі яго падвядзем 1 красавіка.

***

Маску я эту
не буду снимать,
Вдруг повторится
Чернобыль опять.

**Виктор Новоселов**

***

Не пазнае нават маці
Свайго роднага дзіцяці.

**Таццяна Тарасік**

***

Руки к небу я поднял
И в газету так попал.

**Оксана Ахралович**

***

У меня четыре глаза —
Я похож на водолаза.

**Никита Барановский**

***

Вместо милых
детских глаз —
На лице противогаз.
Сейчас к звездам улечу —
Маму с папой захвачу.

**Надежда Добриян**

***

Натяну противогаз —
Не узнает меня класс.

**Инна Семенова**

***

Я вам в зеленой маске
Большие строю глазки

***

Я сегодня в первый раз
Натянул противогаз,
И теперь не разберешь
На кого я стал похож:
То ли слон, то ль Фантомас,
То ли дядя Карабас...

**Юрий Яговдик**

***

Не ради конспирации —
Бегу от радиации.

**Татьяна Лысуха**

***

Потому, что нельзя быть на
свете красивым таким...

**Денис Присняк**

***

— Кто ты там, в противогазе?
— Солист группы
"Сектор Газа"!

***

Таких не берут
в космонавты...

***

Противогаз и грипп одолеет.

**Лилия Прудникова**

***

Я один в саду остался,
Даже сторож испугался.

**Дмитрий Миронов**

***

Взрослым стать
давно хочу —
Может в космос полечу,
А пока я лишь мечтаю
И сестру свою пугаю.

**Елена Солдаткина**

***

Я надел противогаз,
Сразу стал как Фантомас.

**Анна Глечикова**

***

Одену я противогаз,
А потом спрошу у вас:
— Я ль на свете всех милее,
И румяней, и белее?
Ну, а вы потом в ответ:
— Ты прекрасен, спору нет...

**Наталья Эгерд**





*Што б гэта значыла? (№6)*
*Фота Сяргея МАРЧЫКА*

СПОРТ

## Наш боксер сильнейший

**В Бресте завершились XI игры учащейся молодежи нашей республики по боксу. В составе команды Гродненской области выступало три воспитанника Слонимской ДЮСШ №1.**

Ученик СШ №8 Алексей Рахунок занял второе место в весовой категории до 66 кг.

**Б.П.**

## Шахматны турнір

**13 лютага распачнецца адкрытае першынства аўтарамонтнага завода па шахматах.**

Пераможцаў чакаюць грашовыя прызы. Збор удзельнікаў 13 лютага ў 11 гадзін каля прахадной завода.

**Станіслаў АЛЬХОВІК**

## Расписание движения электропоездов из Баранович в Минск и обратно

| ОТПРАВЛЕНИЕ | ПРИБЫТИЕ |
|---|---|
| **Минск** | **Барановичи** |
| 3-57 | 7-01 |
| 7-17 (выходные) | 10-32 (выходные) |
| 8-20 | 11-31 |
| 11-32 (выходные) | 14-27 (выходные) |
| 13-11 | 15-46 (до Бреста) |
| 14-10 | 17-00 |
| 19-12 | 22-20 |
| 20-20 | 23-24 |
| **Минск** | **Барановичи** |
| (о.п. Институт Культуры) | |
| 0-33 | 3-09 (до Бреста) |
| 10-30 | 13-23 (до Бреста) |
| 16-09 | 19-10 (до Бреста) |
| 16-59 | 20-00 |
| 21-15 | 23-50 |
| **Барановичи** | **Минск** |
| 5-25 | 8-20 |
| 7-05 | 9-53 |
| 8-15 | 11-11 |
| 10-42 | 13-09 |
| 11-02 (выходные) | 13-54 (выходные) |
| 12-30 | 15-17 |
| 14-03 | 16-44 |
| 14-52 | 17-43 |
| 16-25 | 19-27 |
| 17-35 | 20-40 |
| 20-40 | 23-54 |
| 22-26 | 0-31 |

АНЕКДОТЫ

☺ - Свидетель, знаете ли вы подсудимого? - А как же, и очень хорошо! Одно время мы с ним вместе работали в банке. - Как же это было? - Как-то ночью я пробрался в банк, а он там уже сейф вскрывал. Пришлось помочь.

☺ - Дорогая, вино делает тебя неотразимой! - Но я не пила вина! - Зато я выпил!

☺ В кабинете у окулиста.
- Читайте нижнюю строчку!
- Напечатано в типографии «Полиграфкнига» 5000 экз. заказ 242.

☺ Суд. Судья спрашивает подсудимого:
- Почему вы бежали из тюрьмы?
- Я хотел жениться...
- Странное у Вас представление о свободе...

☺ - Ну и как вам живется, молодожены?
- Собака уже сбежала...

☺ - Мишенька, а у меня для тебя подарок: по этому атласу еще я училась в школе.
- Тетя, а материки на нем уже обозначены?

☺ - Маша! Посмотри, что делает в комнате твой брат и потребуй, чтобы немедленно прекратил!

☺ Судья подсудимому:
- Почему вы не взяли себе защитника?
- Все адвокаты отказываются вести мое дело, как только узнают, что я действительно не брал этих пяти миллионов.

☺ На приеме у врача:
- Пьете?
- Не откажусь!



**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Касцюкевіч Таццяна
Ліепоўскі Мацвей
Пракапенка Таццяна
Місюк Марыя
Суша Вера
Жук Цімафей
Румянцава Вольга
Абрамчык Арцём
Бузун Лізавета
Палуносік Настасся
Санюта Уладзіслаў
Каранец Максім



**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны шлюбы:**



Панфіловіч Аксана і Машчэнскі Радыён
Тумарэвіч Эма і Огнік Вячаслаў
Ламека Наталля і Хаманскі Аляксандр
Аксана Свіб і Хвесяня Уладзімір
Аксана Маркушэўская і Карташэвіч Ігар
Алена Анікеенка і Ігар Адамовіч
Таццяна Цвікевіч і Васіль Кавалёў
Аляксандра Мірунц і Дзмітрый Кубека

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

**Крот** Станіслаў Уладзіміравіч 1953 г.н.
**Жук** Лізавета Іванаўна 1921 г.н.
**Леўчанка** Зінаіда Мікалаеўна 1931 г.н.
**Румянцава** Вера Паўлаўна 1925 г.н.
**Баранаў** Мікалай Барысавіч 1932 г.н.
**Пакала** Павел Мікалаевіч 1939 г.н.
**Вычугжанін** Мікалай Фёдаравіч 1924 г.н.
**Міско** Ніна Іванаўна 1936 г.н.
**Баскакаў** Сяргей Юр'евіч 1972 г.н.

✝

Выражаем глубокую благодарность и признательность администрации ОАО "Слонимский мясокомбинат", коллективу колбасного цеха, правлению колхоза "1 Мая", коллективу детсада №6, друзьям, всем близким людям, которые оказали материальную и моральную поддержку в похоронах наших дорогих сына и брата Скок Вячеслава Алексеевича, жены и мамочки Скок Янины Владимировны.

*Семьи Скок, Семеньковых, Швайдюков*

✝

Выражаем глубокую благодарность администрации и рабочим управления магистральных газопроводов, д/с №6, жильцам домов 103а и 103б, соседям, друзьям, родным и близким, которые в трудную минуту помогли морально и материально в похоронах **мужа и отца**.

*Семья Крот*

✝

Мастяница Ирина Александровна, примите наши глубокие соболезнования по поводу смерти Вашего **отца** Добрияна Александра Васильевича.

*Коллектив КВД*

СОСЕДСКИЙ КРОССВОРД *от Владимира Вашуты*

**Для того, чтобы решить этот кроссворд необходимо заменить каждую из приведенных букв ее соседкой по алфавиту, стоящей перед данной буквой или за ней. Главное, чтобы в итоге замены получилось требуемое слово. Например: ВФКЫББС — БУЛЬВАР.**



**По горизонтали:**
**1**. ТРУББ. **6**. РДОБПБУНС. **9**. ХБРБЕ. **10**. ПЗЛНЩДУ. **14**. ОДВПТЛМНО. **15**. УПКЗБОС. **19**. РСДЕПЛ. **20**. ЖБВНБПП. **21**. ЕФНБ. **24**. НГЙО. **25**. ВМПЛОНС. **26**. ГПРУНЛ. **29**. ВБКМБРС. **30**. ИББДЪБОЙД. **32**. ДБМДПЁЮ. **33**. НРПЙБ. **35**. ГЙУНСЗОБ. **36**. ВСБМЭ.

**По вертикали:**
**2**. ТББУ. **3**. БББПЙЮ. **4**. СЁЛБСЙБ. **5**. ВНСПЕПБНК. **7**. ОБППЦНЕ. **8**. ЛДУЗР. **11**. ГЁУДПЙОБП. **12**. ОПВБОЙБ. **13**. ЗОЕФРУПЗЮ. **16**. НОМПУ. **17**. БНЕНОБГ. **18**. ЛБСЛБ. **22**. ГКБТСДМЗО. **23**. ЛНИБИЙБ. **27**. БКЛБЖ. **28**. ОДСРНОБ. **31**. ОДЛСБП. **34**. ЙСБМ.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№5)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 3**. Макрель. **7**. Бухгалтерия. **10**. Примета. **11**. Алабама. **12**. Тенор. **13**. Элита. **15**. Реприза. **17**. Блондин. **18**. Реставрация. **19**. Баллада.

**ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Манагуа. **2**. Планета. **4**. Суверенитет. **5**. Аллюр. **6**. Филантропия. **8**. Браслет. **9**. Амнерис. **14**. Канва. **16**. Автомат. **17**. Бравада.

